

Дырэктар прадпрыемства „Друк-Кніга-Рух" Р. Лазаровіч (злева) уручае галоўнаму рэдактару „Нівы" Г. Валкавыцкаму ганаровую грамату за дваццацігадовую працу ў друку.


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 20 (1003) ГОД XX 18 МАЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.


# У атмасферы прызнання і сардэчнасці

З нагоды выхаду ў свет юбілейнага **тысячнага** нумара „Нівы" ў беластоцкім Доме друку 29 красавіка бягучага года адбылася вельмі прыемная ўрачыстасць. На яе прыбылі: сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП **Э. Златажынскі,** старшыня ГП БГКТ **М. Самоцік,** сакратар ГП БГКТ **Я. Зенюк,** дырэктар прадпрыемства „Друк-Кніга-Рух" **Р. Лазаровіч,** намеснікі дырэктара гэтага прадпрыемства **Я. Каверка** і **З. Пукорскі,** намеснік галоўнага рэдактара „Газеты Беластоцкай" **М. Хая,** журналісты і працаўнікі нашага тыднёвіка.

Урачыстасць адкрыў галоўны рэдактар „Нівы" **Г. Валкавыцкі.** Успамінаючы шлях, які дагэтуль прайшоў наш тыднёвік, ён падкрэсліў, што калектыў рэдакцыі ўвесь час імкнуўся на яго старонках давесці да шырокага кола чытачоў пладатворныя ідэі нашай партыі і ўраду, паглыбляць інтэрнацыянальныя і патрыятычныя пачуцці. Усе работнікі рэдакцыі імкнуліся ўдасканальваць свае журналісцкія ўменні, рабіць тыднёвік штораз больш змястоўным і цікавым. І ён знайшоў сваіх чытачоў. Калі на працягу 1957 года было прададзена „Нівы" ў падпісцы 148 тысяч экземпляраў і ў розвічным продажы 31 тысяча экземпляраў, дык у 1974 годзе падпісчыкі атрымалі 243 тысячы экземпляраў, а ў кіёсках „Руху" было прададзена 105 тысяч экземпляраў. З кожным годам у нашага тыднёвіка павялічваецца колькасць карэспандэнтаў і пашыраецца кола аўтараў. І ў будучыні рэдакцыя прыкладзе ўсе намаганні, каб наш тыднёвік заўсёды быў блізкім сэрцу працоўнага чалавека, жывым і займальным часопісам.

Віншуючы калектыў „Нівы" з выхадам тысячнага нумара, **Р. Лазаровіч** падзякаваў за ахвярную працу. Адначасова ён уручыў **Г. Валкавыцкаму** і **М. Хмялеўскаму** ганаровыя граматы за дваццацігадовую працу ў друку, а ўсім працаўнікам рэдакцыі — падзячныя лісты.



**На ўрачыстасці з цёплымі словамі прызнання выступіў сакратар ВК ПАРП Э. Златажынскі.**

У сваім выступленні **Э. Златажынскі** звярнуў увагу на тое, што „Ніва" згуртавала вакол часопіса значную колькасць супрацоўнікаў і шырокае кола чытачоў і карыстаецца папулярнасцю. Кіраўніцтва беластоцкай партыйнай арганізацыі высока цэніць „Ніву" за яе выдатны ўклад ва ўмацаванне адзінства паміж беларускім і польскім народамі, за папулярызацыю ідэй нашай партыі ў асяроддзі беларускага насельніцтва, за шматлікія пачыны дзеля паскоранага развіцця гаспадаркі і культуры на Беласточчыне.

**М. Самоцік** выказаў прызнанне працаўнікам „Нівы" за актыўны ўдзел у працы Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў пашырэнні і ўмацаванні яго шэрагаў і зачытаў спецыяльны віншавальны ліст Прэзідыума ГП БГКТ.

Складаючы віншаванні, **М. Хая** падкрэсліў, што ад самага пачатку паміж калектывамі рэдакцый „Газеты Беластоцкай" і „Нівы" склаліся сардэчныя сяброўскія адносіны і сталае творчае супрацоўніцтва і гэта пладатворна ўздзейнічала на рост ранга друкаванага слова на Беласточчыне. Пажадаў ён усім працаўнікам „Нівы" дачакацца выхаду ў свет яе дзвюхтысячнага нумара.

**Я. Зенюк** у сваім выступленні звярнуў увагу на выдатную ролю, якую споўніла і ўвесь час спаўняе „Ніва" і яе дадатак „Зорка" ў навучанні роднай беларускай мове ў школах і сацыялістычным выхаванні маладога пакалення.

У зачытаных **Г. Валкавыцкім** віншавальных тэлеграмах, якія паступілі ад навуковых работнікаў і студэнтаў кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, праўлення навуковага гуртка пры ГП БГКТ, варшаўскага аддзела БГКТ выказваліся прызнанне ролі нашага тыднёвіка на ніве роднай культуры і пажаданні далейшых поспехаў.

**(іс)**

**Фота Я. Цялушэцкага**




Для ўсіх прыхільнікаў беларускага мастацтва і наогул добрай акцёрскай ігры апошнія дні красавіка сталі ў нас вялікай падзеяй. У гэтыя дні Беласток наведаў і даў пяць прадстаўленняў сваіх лепшых пастановак вядучы драматычны тэатр Беларусі — Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.

Тэатру гэтаму ўжо амаль 55 год. Адкрыты ў Мінску 14 верасня 1920 года, ён стаў першым беларускім прафесіянальным тэатрам.

У першыя гады свайго існавання тэатр ставіў гістарычныя і гераічныя драмы Міхася Чарота, Еўсцігнея Міровіча, інсцэнізаваў народныя легенды з шырокім выкарыстаннем этнаграфічнага матэрыялу. Гэтыя традыцыі засталіся ў тэатры да сёння.

Тады якраз, у 1920 годзе ўпершыню на прафесіянальнай сцэне было пастаўлена „Раскіданае гняздо" Янкі Купалы, напісанае класікам беларускай літаратуры ў 1913 годзе. Драма была навеяна рэвалюцыйнымі падзеямі 1905 года, і Я. Купала на прыкладзе сям'і Лявона Зябліка паказаў, што народны бунт быў выкліканы беспрасветнасцю і безнадзейнасцю жыцця простага селяніна, яго бяспраўем і няшчаднай эксплуатацыяй. На 90-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы, у 1972 годзе, тэатр, што носіць імя паэта, ізноў паставіў „Раскіданае гняздо".

Дырэктар тэатра, заслужаны дзеяч культуры Іван Міхалюта сказаў мне, што, едучы на гастролі ў Польшчу, яны хацелі паказаць у скромных адрэзках часу як мага больш усебакова свой рэпертуар. І сапраўды. „Раскіданае гняздо". Драма, а чуць не нацыянальная легенда. Колькі ў ёй пафасу, які нацыянальны каларыт!

Або „Трыбунал" Андрэя Макаёнка, драматурга, што непарыўна звязаў свой лёс з беларускім тэатрам. Больш чвэрці стагоддзя ён піша для яго. „Трыбунал" — трагікамедыя з жыцця беларускага народа ў змрочныя часы нямецкай акупацыі. Трагікамедыя, бо аўтар пераплятае тут смешныя і трагічныя моманты з жыцця звычайнай беларускай сям'і. Але праз усю п'есу лейтматывам праходзіць вера ў чалавека: няма такой сілы на зямлі, якая прымусіла б яго пакарыцца перад фашыстам.

Трэцяя п'еса, якую прывёз тэатр, — „Зацюканы апостал" таксама А. Макаёнка. Востры палітычны памфлет, філасофскія выказванні, метафорыка. Тэма наскрозь актуальная, і выступаюць тут праблемы, што непакояць сёння кожнага думаючага чалавека ў све-

**(Працяг на стар. 2)**

# Аўчары з Ягаднікаў

Гэты дом выдзяляецца ўжо здалёк. Жалезная агароджа на цэментнай падмуроўцы вабіць вока зялёнай фарбай. Яго сцены зіхацяць свежымі колерамі.

Заходзім у сярэдзіну. Вітае нас Рыгор Назарук і просіць разгасціцца ў мяккіх крэслах. Мода і гарадская манера заўважаецца тут ад першага позірку. Поўны гарнітур навейшай фабрычнай мэблі з Гайнаўкі займае дзве сценкі, а побач традыцыйнага, вялікага, але таксама бліскучага навейшай лакіроўкай стала, стаіць маленькі „чайны" столік з выгоднымі глыбокімі крэсламі.

Мар'я Назарук пачаставала нас кавай — сапраўднай, чорнай, добра перамолатай, у прыгожых карычневых кубачках.

— А можа вы хочаце рукі памыць? запрапанаваў гаспадар.

Я па прывычцы накіраваўся ў кухню, дзе заўсёды знаходзіцца вядро з вадою.

— Ванная комната ў нас вось тут, — паказаў Назарук суседнія дзверы.

Вось як можна жыць у вёсцы! Святло, газ, цэнтральнае ацяпленне, каналізацыя — гэтыя дасягненні сучаснай цывілізацыі ўжо поўнасцю засвоілі Мар'я і Рыгор Назарукі з Ягаднікаў у Гайнаўскім павеце. Яны яшчэ маладыя. Яму 35 гадоў, яна яшчэ малодшая. Дачакаліся ўжо траіх дзяцей.

— Як толькі на нашым панадворку пасяліўся бусел, — жартуе Рыгор, — дык адразу дзеці пасыпаліся.

У іх 12-гектаравая гаспадарка: 6 га поля і 6 га сенажаці. Гэта стварае спрыяльныя ўмовы для жывёлагадоўлі. Рыгор Назарук пачаў ад адкорму быдла, асабліва разводзіў мясных кароў.

— Нядрэнна мне гэта аплочвалася, — сцвярджае Назарук. — Я яшчэ ў гэтым годзе прадаў 6 маладых валоў, больш-менш па 12 тыс. зл. кожны. Цяпер аднак рашыў разводзіць выключна авечак. Маю зараз 57 старых і 50 ягнят. Падлічыў я сабе, што на маёй гаспадар-

**(Працяг на стар. 4)**



*Мар'я і Рыгор Назарукі.*




**Беларускія жанчыны ● Альшанка ● Пясняр блакітнага Дона ● Першы ў Народнай Польшчы (падручнік па граматыцы беларускай мовы) ● У дашаўскай школцы ● Фальшывы сігнал ● Разьбяр з Лукі ● Весткі з Белавежы, Тапчыкалаў, Міклашоў, Ягаднікаў, Гуранаў, Бельска, Гарадка, Гайнаўкі, Новаберазова, Відава, Чаромхі, Крываціч ● Песня „Futbol, futbol, futbol".**

 

# ЮБІЛЕЙНЫЯ ВІНШАВАННІ „НІВЕ"

*

У сувязі з выхадам 1000-га нумара „Нівы" Галоўнае праўленне БГКТ складае сардэчную падзяку рэдакцыйнаму калектыву за шматгадовую працу ў галіне папулярызацыі грамадска-культурнай дзейнасці таварыства і людзей, што сваёй працай на карысць грамадства ўмацоўваюць дасягненні Польскай Народнай Рэспублікі.

ГП БГКТ жадае „Ніве" яшчэ больших поспехаў, пастаяннага павелічэння чытачоў і падпісчыкаў, творчага натхнення, добрага здароўя і задавальнення са сваёй працы ўсім работнікам рэдакцыі.

**Галоўнае праўленне БГКТ**

*

Дарагія сябры! Прэзідыум праўлення варшаўскага аддзела БГКТ ад імя ўсіх сваіх членаў сардэчна віншуе вас з нагоды выхаду ў свет 1000-га нумара „Нівы".

На працягу амаль 20-ці год „Ніва" была верным спадарожнікам, дапаможнікам, падручнікам актыву БГКТ, беларускіх паэтаў, студэнтаў, настаўнікаў і вучняў, сялян, жанчын і моладзі, даследчыкам матэрыяльнай і духоўнай беларускай культуры.

Бадзёрасць „Нівы", яе аптымізм, яе цесная сувязь з надзённымі праблемамі жыцця, зрабілі яе неаддзялімай часткай нашай дзейнасці, арганічнай часткай нашых сэрц.

Жадаем галоўнаму рэдактару „Нівы" і яе калектыву плённай працы, наступнай тысячы нумараў тыднёвіка і многіх тысяч новых чытачоў.

**старшыня Прэзідыума праўлення аддзела**
**др Аляксандр Баршчэўскі**
**сакратар Прэзідыум праўлення аддзела**
**мгр Віктар Швед**

*

Галоўнаму рэдактару „Нівы" тав. Г. Валкавыцкаму.

Ад імя праўлення Навуковага гуртка Беларускага грамадска-культурнага таварыства шлю Вам, таварыш рэдактар, і на Вашы рукі ўсяму рэдакцыйнаму калектыву найлепшыя віншаванні з нагоды 1000-га нумара „Нівы".

Цесная, жывая сувязь з народам з'яўляецца адным з найбольш выдатных дасягненняў „Нівы". Гэтая сувязь дазволіла газеце пастаянна і своечасова адлюстроўваць патрэбы і зацікаўленні чытачоў. У такім плане цяжка пераацаніць ролю „Нівы" як адной з важнейшых крыніц вывучэння шматгранных працэсаў жыцця беларускага насельніцтва Беласточчыны. Істотнае значэнне для даследчыкаў маюць таксама публікаваныя на старонках тыднёвіка этнаграфічна-фальклорныя, гістарычныя і літаратурныя матэрыялы, а таксама звесткі аб эканамічным і культурным прагрэсе, дасягнутым нашым насельніцтвам ва ўмовах сацыялістычнай Польшчы.

Дазвольце пажадаць работнікам і супрацоўнікам рэдакцыі далейшага росту, далейшых творчых поспехаў.

**Юры Туронак,**
**старшыня праўлення Навуковага гуртка БГКТ**

*

Gratulacje z okazji 1000-go numeru „Niwy" przesyłają pracownicy Zakładu Filologii Białoruskiej Uniwersytetu Warszawskiego.

*

Z okazji 1000 numeru przesyłamy gratulacje oraz życzenia dalszego pomyślnego rozwoju.

**Studenci Filologii Białoruskiej UW**

**Нашы ІНТЭРВ'Ю**

# СЕЛЬГАСГУРТКІ Ў НАСТУПЛЕННІ

**„Ніва":** Што новага ў сельгасгуртках? — пытаем шматгадовага старшыню Праўлення Павятовага саюза сельскагаспадарчых гурткоў (ПЗКР) у Беластоку — Пятра Санюковіча (на здымку).

**Пётр Санюковіч:** у Беластоцкім павеце дзейнічае больш 220 сельскагаспадарчых гурткоў, пяць МБМ-аў і пяць СКР-аў. Карыстаюцца яны 546 трактарамі з камплектамі падвесных машын. Найлепшых поспехаў дабіліся СКР-ы, г.зн. кааператывы сельскагаспадарчых гурткоў у Міхалове і Харошчы, а таксама сельгасгурткі ў Бялевічах, Вейках, Дабжыневе Вялікім і Залуках.

**Н:** Цяпер сельгасгурткі займаюцца не толькі механізацыйнай дзейнасцю.

**П. С.:** Ужо нават не толькі раслінаводствам. Усё больш месца адводзяць жывёлагадоўлі. Найперш рэалізаваў гэты намер МБМ у Рафалоўцы, які з гэтай мэтай выкарыстаў пустуючы панскі свіран у Каменцы. Сельгасгурток у Залуках гадуе 370 свіней. На загаспадараных ПФЗ-аўскіх зямельных угоддзях вырошчвае жыта, бульбу і лубін. У мінулым годзе прадаў ён дзяржаве 82 тоны жыта. Сельгасгуртковцы з Тапалян гадуюць 800 авечак і намераны колькасць іх падвоіць. Цяпер узводзяцца тут карпусы вялікай аўчарні. Адкормачны пункт, заснаваны ў Заёнчках, налічвае 700 свіней. У пабудове ёсць яшчэ адна свінаферма. Апрача таго, калектыўная сельская гаспадарка ў Заёнчках ужо трэці год забяспечвае ўсіх



вясковых гаспадынь Беластоцкага павету куранятамі. У мінулым годзе гадоўляй свіней занялася СКР у Міхалове. Сёлета будзе гадаваць 1600 свіней. Будуюцца аборы ў Васількове на 1200 букатаў. Пачнуць гадаваць свіней сельгасгуртковцы заблудаўскай акругі і МБМ у Гарадку.

**Н:** Варта яшчэ вярнуцца і да тае дзялянкі працы сельгасгурткоў, якая называецца вырошчваннем сельскагаспадарчых культур.

**П. С.:** У гміне Шымкі сельскагаспадарчыя гурткі загаспадарылі 200 гектараў зямельных угоддзяў у ваколіцы Лявонавічаў, Луплянкі і Шымкоў. У гміне Заблудаў яны ўзялі ў сваё ўладанне 400 га. У гэтым годзе намераны яны пасеяць буракі для фабрыкі цукру ў Лапах. Яшчэ ў гэтым годзе вырошчваннем збожжавых культур зоймецца таксама МБМ у Гарадку.

**Н:** Паспяховая праца сельгасгурткоў залежыць у многім ад трактарыстаў, механізатараў. Адкуль іх бярэце?

**П.С.:** Каб мець дастатковую іх колькасць, арганізуем для ўсіх ахвотных курсы на права вадзіць трактар. Такім чынам атрымлівае яго ў сярэднім 150 асоб на працягу года.

**Н:** Супрацоўнічаеце яшчэ з гурткамі вясковых гаспадынь (КГВ).

**П.С.:** Гэта наша не менш важная дзялянка працы. Нашыя КГВ налічваюць 5660 асоб. Аказваем КГВ вялікую матэрыяльную дапамогу. Між іншым дапамагаем арганізоўваць вясковыя дзяцінцы, забяспечваем механізаваным абсталяваннем хатняга ўжытку, аплочваем

**(Працяг на стар. 5)**

**(Працяг са стар. 1)**




це. Сын не хоча быць „паліглотам, які глытае многа фальшу", значыць, нельга вучыць кагосьці толькі на тэорыі, не падаючы ўласнага прыкладу. Бічуючы амерыканскую грамадскасць, аўтар выступае тут супроць усялякай хлусні і несправядлівасці, супроць насілля і хамства.

Калі гаварыць аб нейкіх асабістых адчуваннях, дык не магу не захапіцца пастаноўкай „Раскіданага гнязда". Якая ігра акцёраў! Вось Марыля, жонка Лявона Зябліка, (народная артыстка БССР С. Станюта). Кожны жэст яе, кожны позірк, кожнае слова сведчыць аб дасканалым майстэрстве, і, бачачы яе, глядач забываецца, што ён у тэатры. Ён разам з ёй перажывае цяжкія хвіліны ў беднай сялянскай хаце, стаіць каля яе драўлянага ложка, дае хворай жанчыне напіцца, мерзне на сіверы разам з ёю, выгнанай з роднага, наседжанага гнязда...

Незабываемы і Сымон у выкананні заслужанага артыста БССР Г. Гарбука. Мова ў яго якая! Добра іграе Зоську Б. Кліменка, а А. Уладзімірскі — Данілку.

Усе няяснасці, усе ваганні, што непакоілі грамадскасць у перыяд рэвалюцыі 1905 года, выліліся ў драме „Раскіданае гняздо". Кожны з купалаўскіх герояў па-свойму бачыць выйсце з цяжкага становішча. Маці — суцяшае, сын Сымон кідаецца да сякеры, з якою збіраецца ісці на паніча, што адбірае іх зямлю. Бацька гаворыць яму, што ваяваць трэба розумам, а не сякерай. Але і ён не вытрымлівае: павесіўся, калі панскія слугі разбурылі яго хату. Данілка ўсё лепшае звязвае са сваёй іскрыпачкай, якая дапаможа яму знайсці жывую ваду, а Зоська верыць, што палепшыць лёс сям'і, кахаючы паніча. На жаль, сям'ю Зябліка і так выкідаюць з хаты, а паніч збіраецца жаніцца за морам. Рынулі апошнія надзеі. І тут паяўляецца Незнаёмы. Ён кліча Сымона, каб распасцёр крылы і ляцеў туды, куды ўсе цяпер злятаюцца. На Вялікі Сход! Але дзе і як адбудзецца гэты сход, аўтар гледачу не гаворыць.

Гэту нялёгкую п'есу купалаўцы паставілі па-майстэрску. Па-майстэрску зроблена і сцэнічнае афармленне. Вось перад намі сялянская хата. У хаце цэбар з вадою, якую п'юць драўляным каўшом. Пад прызбаю схаваны начоўкі. Драўляны ложак. У куце абразы. На пярэднім плане як сімвал сякера, убітая ў калоду.

Аўтары пастаноўкі рэжысёр Б. Луцэнка і сцэнограф Б. Герлаван увялі ў спектакль вершаваныя і музычныя ўстаўкі (вершы Я. Купалы і музыка, напісаная да яго вершаў.) Рассоўваецца задняя заслона, і мы бачым нешта ні то накшталт іканастаса, ні то накшталт турмы, дзе наперамену паяўляюцца то русалкі, то катаваныя людзі, выкрыкваючыя з болю праклёны. Абыякавая да ўсяго гэтага стаіць маўклівая драўляная постаць Хрыста.

Аглядаючы год 20 таму назад спектаклі тэатра Я. Купалы і параўноўваючы іх з сённяшнімі, я бачу, што тэатр маладзее, а не старэе. Аддаючы надалей вялікую даніну народным традыцыям, тэатр умела спалучае іх з сучаснасцю. Адным словам, народнасць і сучаснасць — вось галоўныя рысы сённяшняга тэатра Янкі Купалы.

Гэтыя ж рысы пацвярджае п'еса „Трыбунал", з якой беластачане мелі ўжо магчымасць пазнаёміцца раней, паколькі ставіў яе ў свой час беластоцкі тэатр.

Галоўны рэжысёр тэатра Янкі Купалы В. Раеўскі імкнуўся зрабіць спектакль больш манументальным, таму ў мінскім „Трыбунале" больш пафасу, больш адцягненых момантаў, уведзен пралог і заканчэнне з плакальшчыцамі. Вельмі цікавае сцэнічнае афармленне. Пра ігру акцёраў не прыходзіцца нават гаварыць. Народная артыстка БССР Г. Макарава ў ролі Паліны і заслужаны артыст БССР Г. Аўсяннікаў у ролі Калабка ствараюць вельмі добрыя, каларытныя постаці.

Не горш выкананы і другарадныя ролі. Вось хаця б роля Галі, старэйшай дачкі Калабка, у выкананні заслужанай артысткі БССР Л. Давідовіч. Роля невялікая, а якая дакладнасць малюнку беларускай жанчыны! Так, гэткае можа дзеяцца ў сапраўды вядучым тэатры. І таму будзем чакаць з нецярплівасцю яго наступнага прыезду.

**Ада Чэчуга**

**TELEWIZJA WARSZAWA**

**Niedziela 18.V.** 6.15 Tech. Rol. Fiz. 6.45 Mech. rol. 7.15 Kurs Rol. 7.50 Przyp., radz. 8.00 Alarm przeciwpoż. trwa. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdrowie. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.15 Antena. 10.35 Turecka włócznia — film. 12.05 Dzien. 12.25 Horyzonty. 12.55 Studio Muz. Roz. 13.25 10 lat w dżungli (Klub Sześciu Kont.). 14.05 Dla dzieci: Co to jest — konkurs-zabawa. 14.45 Nie tylko dla pań. 15.10 Los. Toto-Lot. 15.25 Ambasador kultury polskiej. 16.15 Wyścig Pokoju. 17.05 Lekt. Pegaza. 17.20 Refl. ob. 17.35 Sport. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.25 Narodziny farsy — film ser. franc. (Życie Moliera-śmiech i łzy). 21.20 Pojedynek — III runda. 22.10 Sport.

**Poniedziałek 19.V.** 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 15.50 Nurt — Ped. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Wyścig Pokoju. 17.25 Zwierzyniec. 18.15 Kur. Biał. 18.30 Kr. Warsz. i Maz. 18.50 Szare na złote. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr Współczesny: Iwan Bunin — „Nathalie". 21.20 Pegaz. 22.05 Dzien. 22.20 Kr. Wyścigu Pok. 22.35 Oferty.

**Wtorek 20.V.** 6.30 Tech. Rol. Wskaz. met. 7.00 Mat. 9.00 Narodziny farsy — film ser. fr. (Życie Moliera — śmiech i łzy) odc. II. 10.00 Dla szkół: (kl. VI) J. pol. Spotkanie z pisarzem. Maria Kann. 11.05 (kl. VII—VIII) Wych. plast. Sztuka ludowa. 12.55 Dla szkół śred. Rodzina współczesna — razem czy osobno? 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Chem. 16.15 Pr. dnia. 16.20 Dzien. 16.30 Wyścig Pokoju. 17.20 Dla dzieci: Ponad niebo — film fab. radz. 17.50 Studio Mł. 18.30 Kr. Warsz. i Maz. 18.50 Przyp., radz. 18.55 Eureka. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Filmoteka Arc. Gorączka złota — film fab. USA — w roli gł. Charlie Chaplin. 21.35 Interstudio. 22.20 Dzien. 22.35 Sport.

**Środa 21.V.** 6.25 Tech. Rol. J. pol. 7.55 Chem. 7.40 Gorączka złota — film fab. USA. 9.00 Dla szkół: (kl VII) Chem. Sole. 10.00 Fiz. Świat dźwięków. 11.05 Hist. ...Póki my żyjemy... 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przygot. Fiz. cz. I i II. 15.45 Nurt — Naucz. pocz. mat. 16.15 Pr. dnia. 16.20 Dzien. 16.30 Wyścig Pokoju. 17.40 Dla mł. widz. Skrzydła. 18.10 Los. Mał. Lot. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Polska — konto 1975 — Awans. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Gracz — film fab. radz. 21.55 Sylwetki X Muzy. B. Kosidowska i S. Kazmierczak. 22.20 Dzien. 22.35 Sport.

**Czwartek 22.V.** 6.20 Tech. Rol. J. pol. 6.50 Mat. 7.20 Gracz — film fab. radz. 9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) J. pol. Poezja pol. Oświec. 9.30 Kurs Informat. 10.05 Dla szkół: (kl. II lic.) J. pol. E. Orzeszkowa. 11.05 (kl. III lic.) J. pol. Z. Nałkowska „Granica". 12.00 (kl. VIII) J. pol. J. Tuwim. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Hod. zwierz. 15.05 Mat. w szkole. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.45 Przyp., radz. 16.50 Wyścig Pokoju. 18.00 Kr. Warsz. i Maz. 18.20 Spotk. w drodze. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr Sensacji. J. Bronisławski „Morderca z pociągu". 21.40 Czym żyje świat. 22.10 Dzien. 22.25 Sport.

**Piątek 23.V.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Hod. zwierz. 8.55 Dla szkół: (kl. III) Międzynar. spotk. 9.10 Raduz i Mahulena — film fab. CSRS. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Wych. ob. Co zmieniło się w naszej Radzie Nar. 12.00 Geogr. Kontrasty Bliskiego Wschodu. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przygot. Mat. 15.50 Nurt — Ped. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Pora na Telesfora. 17.15 Turystyka i wyp. 17.40 Pomysł na lato. 18.00 Por. Mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Fakty, op., hip. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Zaśpiewajmy to jeszcze raz. 20.50 Panorama. 21.30 Walka z nałogiem czyli labirynt — film TVP (Czterdziestolatek) odc. II. 22.10 Dzien. 22.25 Sport.

**ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК**

**Piątek 16.V** — 7.30 Film dok. 8.30 Film ser. 12.30 Rozmowy o sporcie. 13.25 Film fab. 16.15 Film anim. 16.55 Film dok. o Irinie Rodninie. 17.50 Film fab. 21.05 Koncert.

**Sobota 17.V** — 8.30 Film fab. 10.25 Koncert. 13.45 Filmy anim. 16.15 P. nożna („Dynamo" Moskwa — „Ararat"). 17.55 — Filmy z Czaplinem. 19.30 Film dla dzieci. 21.10 Koszykówka (ZSRR — — USA).

**Niedziela 18.V** — 10.15 Koncert. 12.00 Hokej (CSKA — „Skrzydła Rad"). 14.15 Spotkanie z K. Simonowem. 16.15 Filmy anim. 17.00 P. nożna (ZSRR — Irlandia). 19.30 Koncert.

**КІНО**

**Białowieża** Potop — pol. 20—25.

**Czeremcha** Kes — ang. 20—21. Hubal — pol. 24—25.

**Czyże** Wódz Prusów — radz. Życie dla miłości — jug. 21—25.

**Dubicze Cerkiewne** On nie chciał zabijać — radz. Wkrótce nadejdzie wiosna — radz. 21—25.

**Gródek** Akcja Bororo — czes. 24—25.

**Kleszczele** Potop — pol. 21—25.

**Michałowo** Głos na sprzedaż — wł. 20—21. Podróż w 30-lecie — pol. 22—23. Weronika — rum. 24—25.

**Milejczyce** Potop — pol. 21—25.

**Narew** Nagrody i odznaczenia — pol. Nieszczęścia Alfreda — fr. 21—25.

**Narewka** Śmierć wybiera — czes. Wybacz i żegnaj — radz. 21—25.

**Nurzec** Małżeństwo — fr. 20—21. Helga — FRN 22—23. Dowódca armii — radz. 24—25.

**Orla** Ostatni nabój — rum. Pułapka na generała — jug. 21—25.

**Rajsk** Prywatny detektyw — ang. Zbrodnia jest zbrodnią — fr. 21—25.

**Suchowola** Kraksa — pol. Ktoś za drzwiami — czes. 21—25.

B.Z.Graf. zam. 1363 P-1



 




# Паўлючук не ўбачыў санацыйнай гары!

У першым нумары новага варшаўскага грамадска-культурнага штоквартальніка **„Рэгіёны“** змешчана рэцэнзія на кніжку У. Паўлючука **„Вершалін“**.

Аўтар рэцэнзіі, Анна Татаркевіч, заўважае, што дзейнасць сектантаў на чале з Ільёй Клімовічам была выклікана цалкам іншымі прычынамі, чымсьці з'явай раптоўнага занядаду народнай культуры і ўзнікненнем свядомасці часу ды гісторыі наогул, хуткім „уваходам у гісторыю“. Паўлючук моцна памыляецца, лічачы, што містычныя плыні сярод беларускага насельніцтва (сектанцтва) з'явіліся як рэакцыя на знянацку выскачыўшыя з-за вугла вялікія падзеі, за якімі ўслед прымчала чортападобная цывілізацыя, скрыгочучая тэхнікай ды пасмешліва рагочучая з народнасці свежамяшчанскімі мордамі, выглянцаванымі, быццам панскія боты!..

Татаркевіч выказвае цікавае меркаванне, што істотнай прадпасылкай нараджэння і досыць шырокай дзейнасці прарока Ілы з Грыбоўшчыны з'яўлялася: *„...крайняя нездаволенасць, выклікаяная грамадска-палітычнай сітуацыяй, якая ў міжваенны перыяд ахапіла беларускую меншасную групу ў межах тагачаснай польскай дзяржавы“*. Далей яна тлумачыць, што настроі нездаволенасці паглыбляла ў беларусаў яшчэ пачуццё горшасці, як народа ў той час без „рэпрэзентабельнай“ культуры на еўрапейскім узроўні, па-мужыцку непісьменнага. Прытым праваслаўнага веравызнання, да якога палякі, вырваўшыся з доўгай царскай няволі, адносіліся пагардліва.

Дагаворваючы — прычыны сектанцкага выбуху Паўлючук павінен быў шукаць перш за ўсё ў нацыяналістычнай і імперыялістычнай палітыцы санацыі.

Каб зразумець псіхічнае становішча беларускай нацыянальнай меншасці ва ўмовах санацыйнага рэжыму, Татаркевіч прапануе параўнанне працэсаў у існаванні іншых нацыянальных меншасцей, у якіх таксама наглядалася дыферэнцыяцыя: побач з гвалтоўным ростам рэвалюцыйных рухаў узмацняліся і варожыя ім уласныя нацыяналістычныя тэндэнцыі, са своеасаблівай нацыяналістычнай містыкай (у літоўцаў ці ўкраінцаў). З увагі на маладосць беларускай нацыі, адсутнічала ў ёй нацыяналістычная містыка, пачаткамі якой маглі б быць спробы Ілы Клімовіча і ягоных прыхільнікаў стварыць „сваю веру“ і мець „свайго цара“, што жыў у Паўднёвым Востраве каля Крынак на Сакольшчыне.

У заканчэнні А. Татаркевіч піша: *„...здаецца, што каб мець поўнае ўяўленне аб з'явах, якія складаюць галоўную тэму „Вершаліна“, трэба было б паказаць іх у кантэксце іншых аналагічных працэсаў (секта Тавянскага), якія аднак жа не мелі нічога супольнага з заняпадам традыцыйнай народнай культуры, але заўсёды спадарожнічалі настроям крайняй нездаволенасці і высоўвалі праграму этычнага аднаўлення, якая, як сама ў сабе, заслугоўвае ўсяго толькі шанавання“*.

**Сакрат Яновіч**

Наш каляндар



# Жыццё, прысвечанае этнаграфіі

Выдатны беларускі фалькларыст **Мікалай Якаўлевіч Нікіфароўскі** звыш сарака год свайго жыцця прысвяціў збіранню і вывучэнню вуснай народнай творчасці, духоўнай і матэрыяльнай культуры беларускага народа.

Нарадзіўся ён 17 мая 1845 года ў сяле Вымна Суражскага павету Віцебскай губерні ў сям'і царкоўнага званара. У 1867 г. закончыў Віцебскую духоўную семінарыю, але пасада свяшчэннаслужыцеля яго не захапляла, і ён дадаткова закончыў настаўніцкія курсы. Спачатку працаваў настаўнікам у Лоўжынскім народным вучылішчы, затым у прыхадской і павятовай школах у Віцебску, а таксама некалькі год у Свіслацкай і Маладзечанскай настаўніцкіх семінарыях.

Этнаграфіяй зацікавіўся будучы яшчэ ў семінарыі, а калі ў Віцебску паявіўся вядомы этнограф П. Шэйн, стаў яго самым адданым карэспандэнтам. Значную частку фальклорна-этнаграфічных зборнікаў П. Шэйна складаюць якраз матэрыялы, сабраныя і дасланыя яму М. Нікіфароўскім. У пачатку 90-х гадоў пачынае самастойна выдаваць свае этнаграфічныя працы і за 20 год самастойнай навуковай дзейнасці апублікаваў каля 20 работ па этнаграфіі, фальклору і гісторыі Беларусі, між іншым: *„Очерки Витебской Белоруссии“*, *„Очерки простонародного житья-бытья и предметы обиходности...“*, *„Белорусские песни-частушки“*, *„Странички из недавней старины города Витебска“*, *„Простонародные приметы и поверья...“* і шэраг іншых. Яны складаюць цэлую эпоху ў гісторыі беларускай этнаграфіі і сёння яшчэ з'яўляюцца каштоўнейшай крыніцай для вывучэння духоўнай і матэрыяльнай культуры, а таксама побыту беларускага народа. М. Нікіфароўскі ўпершыню даў найбольш разгорнутае і падрабязнае апісанне ежы, адзення, жылля і прыладаў працы беларускага працоўнага люду. За 45 год працы сабраў 2 356 беларускіх частушак.

У сваіх працах М. Нікіфароўскі даваў належны адпор усім тым, хто прыніжаў беларускі народ і прадстаўляў яго хілым і недаразвітым. Вучоны падкрэсліваў высокі эстэтычны густ беларусаў і іх імкненне да прыгожага. „Разам з землячкамі, — пісаў ён, — я гарую з прычыны склаўшыхся непаладак, і калі не магу дапамагчы яму матэрыяльна, дык не адмаўляюся ад падачы маральнай падтрымкі“.

Памёр М. Нікіфароўскі 10 чэрвеня 1910 года.

Сучасная беларуская этнаграфія высока цэніць збіральніцкую і навуковую спадчыну М. Нікіфароўскага. (іс)

## У АБ'ЕКТЫВЕ ГІСТОРЫІ




Пішучы сваю славутую аповесць, Генрык Сянкевіч абмінуў **Орлю,** але не абыйшлі гэтай мясціны на Падляшшы тыя бурлівыя падзеі 1655—1660 гадоў, што пісьменнік паклаў у аснову літаратурнага твора, а рэжысёр Е. Гофман — папулярнага фільма.

Не будзем затрымоўвацца на багатай „дапатопнай“ гісторыі мястэчка і толькі ўсяго на паўстагоддзя зірнем у ранейшыя часы, калі разгарнуліся ваяцкія прыгоды Кміціца-Альбрыхскага.

Недзе ў канцы XVI ці ў пачатку XVII стагоддзяў Орля апынулася ва ўладанні гетмана літоўскага Кшыштофа Радзівіла і надта ж прыпала яму да спадобы. Гэта па яго загаду тут у 1622 г. быў узведзены раскошны палац, а дванаццаццю гадамі пазней ён жа надаў Орлі гарадскія правы. Палюбілася мястэчка над блакітнай Арлянкай і яго сыну Янушу Радзівілу (1612-1655), які займаў у Вялікім княстве Літоўскім шэраг высокіх пасадаў, а з 1654 года быў гетманам вялікім літоўскім. Ён 15 мая 1643 года пацвердзіў гарадскія правы Орлі і надаў ёй герб, на якім быў прадстаўлены на чырвоным фоне чорны арол з тапаром у правайназе. Я. Радзівіл быў кальвіністам і фанатычным насаджальнікам гэтага веравызнання на Падляшшы і ў Вялікім княстве Літоўскім. У 1644 годзе пад яго асабістым кіраўніцтвам у Орлі адбываецца вялікі з'езд кальвіністаў і іншых прадстаўнікоў некаталіцкага веравызнання з Вялікага княства Літоўскага і Польшчы. Мабыць, гэтая ўрачыстасць адбылася ў новазбудаваным пышным гмаху збору — адзіным сведку тых часоў, што і да сёння ўзвышаецца над Орляй. Мястэчка ж стала бурліва развівацца і славіцца па ўсёй Польшчы і Вялікаму княству Літоўскаму не толькі як цэнтр кальвінізму, але перш за ўсё вырабамі ўмелых рук яго рамеснікаў ды багаццем рухлівых купцоў.

Але яго ўзыходзячую славу загасіў сам Януш Радзівіл, калі 17 жніўня 1655 года ў Кейданах падпісаў дагавор аб пераходзе Вялікага княства Літоўскага ад уніі з Польшчай да уніі са Швецыяй. Паўстаўшыя супраць гэтай яўнай здрады 25 харугвіяў літоўскай конніцы (каля 2 500 ваяўнікоў) у верасні гэтага ж года рушылі з-пад Коўна на Падляшша, а затым накіраваліся ў Брэст. Зразумела, што на сваім шляху не ашчаджалі маёнткаў тых, хто, здрадзіўшы караля польскага Яна Казіміра, перайшоў на бок Януша Радзівіла і шведскага караля Карла X. І арлянскі маёнтак Радзівіла стаў іх спажывай. Следам за літоўскай конніцай у Орлю ўвараліся шведы і таксама пагр<br>рабілі колькі хацелі. Але гэта быў толькі першы акт арлянскай трагедыі. Другі і трэці наступілі ў пачатку 1656 г., калі верныя каралю Яну Казіміру войскі Вялікага княства Літоўскага пад камандаваннем Паўла Сапегі з-пад Брэста рушылі здабываць занятую шведамі крэпасць у Тыкоціне і, не здабыўшы яе, падаліся на Люблін, а следам за імі гналася патоня шведскіх і саюзных з імі радзівілаўскіх войск. Зноў дасталася Орлі і ад чужынцаў і ад сваіх. Наступны акт разыграўся ў верасні таго ж года, калі літоўская армія пад камандаваннем В. Гасеўскага (П. Сапега тады захварэў) з-пад Любліна цераз Брэст і Бельск зноў перавалілася масай каля 11 тысяч чалавек гэтай ваколіцай, каб падацца на Элк і далей у Літву. У 1657 годзе Орля і яе наваколле зноў перажывае двухразовы пераход арміі Вялікага княства Літоўскага. У наступным годзе ўжо не было паходаў, затое войскі Вялікага княства Літоўскага стаялі тут на зімовых лежах. І мясцовае насельніцтва гібела ад рознага роду марадзёраў. Потым войскі адкаціліся на поўнач і захад і ўсё супакоілася.

Але на месцы багатых мястэчак і людных сёл Падляшша засталіся толькі руіны ды папялішчы. Такі ж лёс спаткаў і радзівілаўскую Орлю. Ад раскошнага палаца і іншых маёнткавых забудаванняў не засталося каменя на камені. Па колішніх рухлівых вуліцах ды шумным рынку вецер разносіў туманы попелу з пажарышчаў ды блукалі, выючы, бяздомныя сабакі. У мястэчку не засталося і жывой душы. Адно магутныя сцены аграбленага і выпаленага кальвінскага збору чорнымі пустымі вочніцамі акон глядзелі на загінуўшае мястэчка і свежыя капцы на магілах яго жыхароў.



Страшна ўпісаўся „патоп“ у гісторыю Орлі. Прамінуў гэта Г. Сянкевіч, дык не ахвяраваў нават і секунды ў сваім фільме Е. Гофман. А трыста наступных год сцерлі ўсе сляды вялікай трагедыі ні ў чым не павінных арлянскіх падданых здрадніка Януша Радзівіла.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-75“

*Трэцяе месца ў сёлетнім цэнтральным аглядзе ў катэгорыі сучаснай песні ў групе калектываў заняў квартэт з Клейнікаў Гайнаўскага павету ў складзе: М. Гаўрылюк, А. Грыгарук, М. Купрыяновіч і Ф. Мікульская. Акампаніятар: М. Грыгарук. Фота Я. Цялушэцкага.*




# Нашаніўская пара

АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА V

**Патрыятычная лірыка.** Апрача разважанняў аб мінулым, сучасным і будучым, у патрыятычных вершах Гаруна знаходзіцца значны дыяпазон іншых праблем. Да іх у першую чаргу трэба залічыць пейзажныя замалёўкі Беларусі і пахвалу беларускай мове. Большасць сваіх вершаў напісаў Гарун у сібірскай ссылцы. Зразумела, што ствараючы ў такіх умовах паэзію, не мог не супастаўляць суровую сібірскую прыроду з прыродай Беларусі і не мог не ідэалізаваць родны, страчаны, недаступны пейзаж. Родная прырода снілася паэту па начах, прыплывала ў марах, вылівалася ў паэтычную струю. Верш „Начныя думкі“ пачынаецца фразаю:

Часам я ўночы сны дзіўныя бачу:
Роіцца нейкі нязведаны край,
Повен то шчасця, то жаласці плачу,
То злохмурлівы, то светлы, як рай.

Перапляценне супрацьстаўных пачуццяў і паняццяў рэальнасці і фікцыі, рэчаіснасці і казачнасці мусілі быць у вершах такога тыпу звычайнай з'явай. І таму нічога дзіўнага, што ў гэтым жа вершы знаходзім побач з рэалістычным апісаннем беларускай прыроды і такі вобраз далёкага краю:

Ночкай ля рэчкі раздольна,
прывольна.
Гуртам русалкі смяюцца, пяюць;
Кветкі купальскай шукае бяздольны,
З зеллем шаптухі паціху пяюць.

Нельга здзіўляцца, што ў прыродаапісальных вершах вельмі часта гучыць дэкларатыўны патрыятычны матыў. Паэт хоча абняць краіну, як маці, як дзяўчыну, прагне ўвасобіцца ў крыніцу і цалаваць берагі, імкнецца стаць ветрам і ўскалыхнуць лісце дрэў. Некаторыя з намераў, з пажаданняў паэта маюць наіўна-дзіцячую форму. Падыктаваны яны глыбокай эмацыянальнасцю, глыбокай верай у магчымасць немагчымага.

У вершах „Ты, мой брат, каго зваць беларусам“, і „Песня-звон“ Гарун моцна падкрэслівае патрыятычнае значэнне роднай мовы. У вершах гэтых трактуе мову як фундамент нацыянальнай свядомасці. Аўтар не без асноў гаворыць, што адзіным захавальнікам роднай мовы ў неспрыяючых палітычных умовах мінулага было сялянства:

Ты, мой брат, каго зваць беларусам,
Роднай мовы свае не цурайся;
Як не зрокся яе пад прымусам,
Так і вольны цяпер не зракайся.
Ад дзядоў і прадзедаў, браце,
Гэты скарб нам адзін захаваўся,
У сялянскай зрабованай хаце
Толькі ён не забраным застаўся.

Верш гэты закончаны вельмі вымоўнай страфой, у якой аўтар выказвае думку, што беларусы, хочучы з'яднаць для сябе пашану з боку іншых народаў, мусяць шанаваць тое, што складае іх нацыянальнае аблічча — родную мову.

Дык шануй, беларус, сваю мову —
Гэта скарб нам на вечныя годы!
За пашану радзімаму слову
Ушануюць нас брацця-народы!

Сярод усіх патрыятычных вершаў Гаруна да найбольш дэкларатыўных належыць, несумненна, верш „Песня-звон“. Мае ён характар мітынгавай прамовы. Насычаны ён выклічнікамі і аратарскімі фразамі. Верш гэты нагадвае некаторыя рэвалюцыйныя творы Цёткі. Падабенства адносіцца да формы, да стылістыкі, да ўпрошчанай рамантычнай метафорыкі:

Гэй, ты, маці родная мова,
Гэй, ты звон вялікі, слова,
Звон магучы,
Звон бліскучы,
З срэбра літы,
З злота збіты,
Загрымі ты,
Загрымі!

На прыкладзе прыведзеных фрагментаў вершаў Гаруна бачым, што ў яго патрыятычнай лірыцы сужывуць амаль у ідэальных прапорцыях пачуццё, эмацыянальнасць, паэтычнасць і палітычнасць.






(Працяг са стар. 1)

цы змагу выкарміць 100 штук матак з прыбыткам і ў бліжэйшы час хачу размножыць сваё стада да гэтага стану.

А пачалося ўсё 5 год таму назад, ад таго, што Назаруку амаль сілай прадалі 5 пародзістых авечак. І тады ён пераканаўся, што гэта яго „залатая жыла“. Авечку стрыгуць кожныя 10 месяцаў. Дарослая авечка дае 5 кг воўны. За адзін кілаграм плацяць цяпер у сярэднім 250-260 зл. у залежнасці ад якасці.

## Аўчары з ягаднікаў

— У мінулым годзе, — інфармуе гаспадыня, — даставілі мы 440 кг воўны.

— Апрача гэтага, гадуем і прадаем, — дадае гаспадар, — пародзістыя маткі. Вось нядаўна 20 сакавіка...

— Якраз у той дзень, паясняе яго жонка, — калі ў Беластоку адбывалася гэтая сустрэча перадавых сялян. Мы тады здавалі авечак і таму я не змагла прыехаць на гэтую сустрэчу, чаго вельмі шкадую, бо, кажуць, што праходзіла яна вельмі ўрачыста.

— ...здалі мы тады 10 пародзістых бараноў па 6,5-7,5 тыс. кожны.

Гаспадар глянуў на гадзіннік і заявіў:

— Выбачайце, мне пара заняцца сваімі авечкамі.

Мы выйшлі на панадворак, і Рыгор Назарук накіраваўся ў клуню. Адчыніў яе шырокія вароты, з якіх хлынула шэрае стада.

— Трэба нам будаваць сапраўдную аўчарню, — гаворыць ён, дастаючы ваду з калодзежа. — А пакуль што выкарыстоўваю пустую клуню.

Пасля ён напаіў яшчэ свой авечы маладняк і мы зноў ад холаду і дажджу схаваліся ў цёплую, багата абсталяваную хату. Назарук завёў мяне на другую палавіну свайго дома, дзе знаходзяцца яшчэ два пакойчыкі. У адным гаспадарыць яго маці, а другі прызначаецца для агляду тэлевізійных перадач.

— Хацеў я ўжо купіць сабе каляровы тэлевізар, каб дзеці мелі ўцеху, — гаворыць Рыгор Назарук, — але кажуць, што ён часцей псуецца, дык пабаяўся, бо з рамонтам гэтай тэхнікі ў нас вялікая валакіта.

— Вас толькі двое, дзеці малыя, маці старая. Як вы спраўляецеся са сваёй — не малой жа — гаспадаркай? — запытаў я.

— Выручаюць машыны, — адказаў гаспадар. — На сельскагаспадарчыя машыны ў апошнія чатыры гады аддаў я дакладна 228 тыс. злотых. Маю ўласны трактар з поўным камплектам сельскагаспадарчых машын і прылад. Ужо чацвёрты год не трымаю каня. Прадаў яго, бо ён трактара баяўся. Усё раблю трактарам. У поле, у лес, у горад толькі на трактары. Ён мух не баіцца, не раве́цца, травы не скубе і кожную хвіліну гатовы ў дарогу.

Цэніць дзяржава такіх гаспадароў. Тройчы ўжо Мар'ю і Рыгора Назарукоў прызнавалі майстрамі сельскагаспадарчай прадукцыі. Паказваюць мне дыпломы і медалі на яго і яе імёны. 9 красавіка ў час пленарнага пасяджэння Павятовага камітэта партыі ў Гайнаўцы, прысвечанага ролі жанчыны, Мар'я Назарук атрымала сярэбраную адзнаку „Заслужаны Беласточчыне“.

— Вы, здаецца, прыехалі „Волгай“, — звярнуўся Назарук да рэдакцыйнага шафёра. — То ж і ў нас прыйшла ўжо пара на пакупку аўтамабіля. Толькі не ведаю, які купіць. Жонка кажа, каб „Волгу“, бо на гэтыя малыя „Фіяты“ і „Сірэны“ я нават і глядзець не хачу.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара




Польскія пісьменнікі, якія нарадзіліся ў Беларусі:

Ажэшка Эліза (1841-1910) — нар. у Мількоўшчыне, што каля Гродна. Раманістка.

Асандоўскі Фердынанд (1878-1945) — нар. у Беларусі. Празаік, падарожнік.

Багамолец Францішак (1720-1784) — нар. на Віцебшчыне. Камедыёграф і публіцыст. Аўтар бяседнай песні „Курдэш над курдэшамі“.

Быкоўскі Якса Ігнат (1750-1817) — нар. у Пяцёўшчыне, што каля Мінска. Паэт, драматург, перакладчык.

Валодзька Вацлаў (1831-1904) — нар. на Міншчыне. Раманіст („Выбраннікі лёсу“) і палітычны дзеяч.

Загорская Анна (каля 1882-1942) — нар. у Віцебску. Паэтэса. Раманістка.

Зан Тамаш (1796-1855) — нар. у Мясоце. Паэт.

Здзяхоўскі Казімір (1878-1942) — нар. у Ракаве. Раманіст („Ускраіна“, „Зарыва“).

Каратынскі Вінцэнт (1831-1891) — нар. у Седлішчах, што каля Навагрудка. Публіцыст, празаік і выдавец.

Князьнін Францішак Дыянізы (1750-1807) — нар. у Віцебску. Паэт, прадстаўнік сентыменталізму.

Корсак Юльян (1806-1855) — нар. у Слоніме. Паэт і перакладчык.

Маралёўскі Язэп (1777-1845) — нар. у Аршанскім раёне. Паэт, перакладчык.

Масальскі Эдвард Тамаш (1799-1879) — нар. у Рудаўцы, што каля Несвіжа. Празаік, публіцыст.

Масальскі Язэп (1800 — каля 1845) — нар. у Белічанах. Паэт, байкапісец.

Міцкевіч Адам (1798-1855) — нар. у Завоссі, што каля Навагрудка. Найвялікшы польскі паэт.

Нагурчэўскі Ігнат (1725-1811) — нар. у Нагурках, што каля Пінска. Паэт, перакладчык, педагог.

Падгорскі-Аколуў Леанард (1891-1957). Паэт, даследчык жыцця і творчасці А. Міцкевіча, перакладчык.

Патоцкі Леан (1800-1864) — нар. у Каханове. Раманіст („Мемуары пана Камертона“), публіцыст.

Радзевічуўна Мар'я (1863-1944) — нар. у сяле Пенюха, што каля Гродна. Раманістка („Дэвайціс“).

Савіцкая Юзэфа (1859-1920) — нар. у Лапачыне, што каля Гродна. Празаік, перакладчыца.

Сухадольскі Райнольд (1804-1831) — нар. у Беларусі. Паэт.

Сыракомля Уладзіслаў (1823-1862) — нар. у Смальгове. Паэт, перакладчык.

Гшэшчкоўская Зофія (1847-1911) — нар. у Драгавіцы. Паэтэса, перакладчыца.

Чачот Ян (1796-1847) — нар. у Макушыцах. Паэт, збіральнік і перакладчык беларускай народнай паэзіі.

Шыдлоўскі Ігнат (1793-1846) — нар. у Гайне, што каля Барысава. Паэт, перакладчык, літаратурны крытык.

Янушкевіч Адольф (1803-1857) — нар. у Несвіжы. Паэт, удзельнік лістападаўскага паўстання.

Апр. **Пётр Байко**




...найбольш малака п'юць у Нарвегіі;

...найбольш масла на аднаго жыхара ёсць у Фінляндыі;

...найбольш сыра з'ядаюць французы;

...найбольш смятаны выпіваюць англічане.

...айчынай найвышэйшых дрэў на свеце з'яўляецца Аўстралія. Дрэвы дасягаюць там вышыні 155 м.

...найбольшыя кветкі сустрэць можна ў джунглях Суматры. Дыяметр кветкі мае больш як 1 м.

...найбольшая бібліятэка знаходзіцца ў Маскве. Гэта бібліятэка імя Леніна, у якой налічваецца каля 15 млн. кніжак.

...Японія налічвае 527 стагодкаў. Найстарэйшай жыхарцы Японіі 111 год. Сярод гэтай колькасці 96 — гэта мужчыны, а 431 — жанчыны. (ті)

# Майстар на ўсе рукі



Калі некаму прыдзецца ехаць з Орлі ў напрамку Бельска Падляшскага, ён на ўскраіне вёскі Парцава, несумненна, зверне ўвагу на вятрак, крылы якога размашыста круцяцца ў парывах ветру.

— Пабудаваў я яго недзе ў 1951 годзе, — кажа **Міхал Бабулевіч**. — Тады яшчэ ў нас не было электрычнасці, і ён мне пасабляў у многім пры гаспадарцы: малаціў збожжа, малоў, рэзаў сечку. Цяпер ужо толькі асыпку меле.

Але не адно вятрак з'яўляецца вынікам умелых і дбайных рук М. Бабулевіча. У яго ёсць і падручная кузня са слёсарскім варштацікам, а ў новым абшырным мураваным доме знаходзяцца ўсе сучасныя абсталяванні і выгады. На сваёй 10-гектаравай гаспадарцы ён кантрактуе шмат збожжа і бульбы, гадуе 4 дойныя каровы і 2 штукі ялаўніку, штогод дастаўляе на скупку 6-8 кормнікаў.

— Цяпер дзякуючы машынам на гаспадарцы ёсць больш вольнага часу, чым калісьці, — заўважае М. Бабулевіч. — І каб не марнаваць яго, заняліся мы з сынам вырабамі з саломы. Пляцем розныя карабкі, кашалі ды кошычкі. І не скажу, што гэта благая справа. Папершае, нам да яе не прывыкаць, бо яшчэ нашыя дзяды ды прадзеды плялі з саломы розныя сявенькі і кашалі. Падругое, грош з гэтага ладны ідзе. Вось хоць бы за мінулую зіму мы здалі ў „Цэпэлію“ 300 штук кошыкаў на суму 15 тысяч злотых. А за сёлетнюю зіму нарыхтавалі 400 штук домікаў для птушак, таксама грош немалы павінен быць, бо даюць нам па 45 злотых за штуку.

Цурчыць белым цёплым струменьчыкам асыпка з-пад млыновага кола, і звітна кладзецца ў руках вясковага ўмельца пасма саломы, каб неўзабаве стаць зграбным кошычкам. Які ж прыемны і блізкі гэта малюнак з нашых родных аселіц, дзе не збывае ў талентах і працавітасці! (іс)



 

# ТРЫБУНА чытачоў

**УРУЧЭННЕ НОВЫХ ПАРТБІЛЕТАЎ**

## У Галадах

У школе ў Галадах (Бельскі пав.) адбылося ўрачыстае ўручэнне новых партбілетаў членам тутэйшай партарганізацыі. На ўрачыстасці прысутнічалі жыхары вёскі Галады. Віншаванні і пажаданні членам партыі перадалі вучні і гарцэры галадоўскай школы.

**Валянцін Анапюк**

## У Гайнаўцы

У партарганізацыі пры пасёлкавым камітэце нумар 4 горада Гайнаўкі адбыўся ўрачысты сход, на якім сакратар гарадскога камітэта Ян Аверчук уручыў членам партыі новыя партбілеты.

Гэтая партарганізацыя з'яўляецца найбольш актыўнай у рабоце, і таму яе члены першыя атрымалі новыя білеты. А I сакратар яе Вінцук Дзедзюль гэта шматгадовы партыйны дзеяч.

**Э. Вайсковіч**

## Прыпынак ПКП у Кляшчэлях

Давялося мне пабываць на станцыі ў Кляшчэлях. Вельмі спадабалася, што ў пачакальні чыста і цёпла. Надпісы выразныя. На сценах густоўныя плакаты. Усё гэта добра сведчыць пра гаспадароў станцыі, а таксама і пра падарожных.

## Паштовая скрынка 149 ці 281?

3 лістапада 1974 года ў нумары 44 (975) „Нівы" пісалі вы, што рэдакцыя прыдбала сабе паштовую скрынку 149. Факт гэты пацвярджаецца ў кожным нумары на сёмай старонцы. На жаль, здзівіла мяне, што рэдакцыйная пячатка, прыложаная на дыплом, які я атрымаў як карэспандэнт 6 красавіка на з'ездзе ў Беластоку, мае скрынку 281. Чаму?

**Я. М.**

**Ад рэд.** Вінавата пячатка. Зменім.

## Абрываюць драты

Трактары і грузавыя машыны, возячы лён з пункту скупкі ў Ляневе (Гайнаўскі павет) у бельскую рашарню, вельмі часта абрываюць па дарозе тэлефонныя і радыёвыя драты. Гэта таму, што вышыня нагружаных ільном машын ці прычэп значна большая чым 4 метры, што нават не згодна з правіламі дарожнага руху. На жаль, шафёры ў гэтым выпадку бязрадныя, бо рабочыя, якія са стагоў кладуць лён на самаходы, сілом упіраюцца, каб як найболып і найвышэй накласці. Хаця лён вяжуць вяроўкамі, каб не раз'ехаўся, здараецца аднак няраз, што ў дарозе ўсё перахіліцца на адзін бок і выкуліцца на дарогу ці ў роў. І так думаеш сабе, навошта ж двойчы рабіць тую самую работу і на дадатак клопаты манцёрам?

**Е. С.**

## Прыклад гаспадара

Мікалай Алекша жыве ў вёсцы Піражкі Сакольскага павету. Гаспадарыць па-новаму і з алоўкам у руках. Будзе спецыялізавацца ў гадоўлі вархлякоў.

Ураджаі ў яго ў сярэднім — збожжавых 34 цэнтнеры з гектара, бульбы — 250 цэнт. з га. Палавіну поля ён абсявае ячменем і пшаніцаю. На гектар дае сярэднім 200 кг мінеральных угнаенняў.

Як сам кажа, усё гэта дасягнуў таму, што закончыў сельскагаспадарчую школу і далей паглыбляе свае веды, чытаючы газеты і слухаючы добрыя парады гміннага сельскагаспадарчага інструктара. За вынікі працы ў 1974 годзе атрымаў дыплом.

**Я. Бандарук**

## Сустрэча з Сакратам Яновічам

У вёсцы Стрыкі адбылася сустрэча з пісьменнікам Сакратам Яновічам. На сустрэчу прыйшло многа жыхароў вёскі. Пісьменнік цікава расказваў аб сваім жыцці і творчасці. Потым ён чытаў свае апавяданні. Людзям вельмі спадабаліся яго кароткія гумарыстычныя замалёўкі.

Можна было таксама купіць кніжкі Яновіча, якія ён падпісваў. Нашы людзі хочуць, каб такія сустрэчы бывалі часцей.

**Янка Сычэўскі**

## Некалькі слоў пра конкурс „Савецкі фільм — фільм для усіх"

З нагоды 30-й гадавіны перамогі над гітлераўскімі захопнікамі і днямі савецкай культуры ў нашым горадзе Беластоку праявілася вялікае зацікаўленне кінематаграфіяй Савецкага Саюза. У школах працуюць гурткі ТППР. Такі гурток дзейнічае і ў прафесіянальнай школе нумар 1. Вучні гуртка прынялі ўдзел у конкурсе „Савецкі фільм — фільм для ўсіх". Яны глядзелі 5 фільмаў з двух тэматычных цыклаў: вайна — час выпрабавання чалавечага характару і савецкая камедыя. Пасля адбываліся школьныя элімінацыі. Перамагла трохасабовая дружына: Андрэй Бецюк, Тадэуш Налязэк і Войцех Налівaек. Хлопцы заквaліфікаваліся ў гарадскія элімінацыі, якія адбыліся ў беластоцкім клубе „Муза". І тут яны аказаліся моцнымі. Узялі другое месца і ўвайшлі ў ваяводскі фінал.

Цяпер хлопцы гавораць: мы сапраўды палюбілі савецкі фільм, бо і многа аб ім ведаем.

**Эліза**

## Пра іх трэба помніць

Трапляюцца яшчэ ў нас месцы, дзе гітлераўскія акупанты расстрэльвалі людзей і дзе дагэтуль няма ніякага знаку, што тут магіла. Вось прыклад: у чэрвені 1943 годзе паблізу вёскі Шудзялава, каля шашы, што ідзе з Саколкі ў Крынкі, гітлераўцы расстралялі 14 чалавек так званых закладнікаў, у тым ліку 5 асоб — сям'ю ветэрынара Трускоўскага з Талькоўшчыны, 3 асобы — сям'ю Снарскіх з Крынак, Малішэўскага з Баратыншчыны і іншыя. А на гэтым месцы няма ні помніка, ні памятнай таблiцы. Толькі нечая невядомая рука пасадзіла тут пару грабінак, якія і паказваюць тое месца. Час аднак бяжыць, пра грабінкі людзі забудуць. Але пра загінуўшых забыцца нельга.

**Т. К.**




## З нагоды 1000-га нумара — „НІВЕ"!

„Ніва" наша „Ніва", „Ніва" дарагая,
Хто б мог і падумаць, што ты ўжо „старая"!
Тысячны твой нумар мы сёння чытаем,
Самага найлепшага мы табе жадаем!
Усяго бывала за год дваццаць тых,
Ужо і не ўспомніш артыкулаў усіх.
Па тваіх старонках і Разін гуляў,
Хоць зваўся Сцяпанам, ў табе Сенькаю стаў!
У табе яйкі ходзяць, рафкі муку мелюць
І іншыя „цуды" ў табе часта спеюць.
Наблытаўшы добра, клеціш новы твор —
Гэту блытаніну месціш у фальклор.
А Сакрат Яновіч як часам што скажа,
То й выпіўшы літра, нічога не сцяміш:
Генерал, бы дурань там енчыць, смяецца,
Розны глупствы робіць, без толку таўчэцца.
Сама я не помню, мне бацькі казалі,
Што ў генералы дуракоў не бралі.
(Нават і ў царскія!)
А зноў доктар Барскі у „Бел. літ." як ўзяўся
За М. Багдановіча, дык ледзь з ім расстаўся!
У Сібір паехаў потым адпачыці,
Набраць сіл там новых і далей „тварыці".
Дадатак для дзетак заўсёды цікавы —
Піша яго Яня — майстар гэтай справы.
Толькі ў тым дадатку — „Зоркаю" ён завецца,
Рысунак з артыкулам нязгодны даецца.
У апавяданні — сарна, рысунак — каза!
(Сапраўдная, дамовая гэта гарэза!)
Трэба, каб С. Рыбі мог паняць хутчэй,
Што „Зорка" — дык гэта газета дзяцей!!!
Гэта ж вам не пленер, дарагі мастак,
Таму не рысуйце дзеткам абы-як!!!
„Сэрцайкам" кіруе Саламон ў спадніцы,
Як каму параіць, дык спакойна спіцца.
Ёсць і М. Хмялеўскі, чалавек-дабрак,
Нездарма й псеўдонім у яго „Сваяк"!
А рэдактар Рудчык штосьці лянівым стаў,
Пісаў больш цікава, цяпер перастаў.
„Ларс" піша цікава свае фельетоны,
Хоць часам замнога дактароў бароніць!
З „Лясуном" „Зубрыцкі" за рукі ўзяліся,
У лес па зуброўку, мусіць, паняслiся.
(На твой юбілей, каб была!),
Ёсць 1000-ны нумар, а іх усё няма!
Асталося начальства — не буду чапаць!
За гэта й па лысіне можна дастаць!

Алавік спісала —
Пісаць няма чым,
Дак 100 год для „Нівы"
Жадае...

**Ананім**

## ГРАМАДСКІЯ ЧЫНЫ

### У ВЯРХЛЕССІ

Дарога са Слойкі ў Вярхлессе, што на Сакольшчыне — гэта адзіная, якая спалучае гміну Шудзялава з нябліжкім Вярхлессем. Улады гміны пастанавілі яе адбудаваць. Работамі кіруе дарожны тэхнік Мар'ян Ярашэвіч.

На гэтай дарозе члены ПАРП і ЗСЛ капалі равы. Самымі актыўнымі былі жыхары вёскі Сукавічы. Праца была добра арганізавана, за што прызнанне належыцца начальніку гміны Рыгору Чарневічу.

**Я. Бандарук**

### У БАБІКАХ

У Бабіцкай гміне адбыўся грамадскі чын моладзі. Школьная моладзь 7 і 8 класаў з шасці школ гміны: Бабік, Сухініч, Кнышэвіч, Мінкаўцаў, Войнаўцаў і Номікаў — усе папрыходзілі-папрыязджалі на чын. 6 гадзін на дарозе Бабікі-Сухінічы ў дажджлівую пагоду працавала моладзь.

Вялікі ўдзел у арганізацыі гэтага чыну дырэктара зборнай школы ў Бабіках — Валянціны Барады. Вартасць чыну — 20.000 зл.

**Т. К.**

### У МОКРЫМ

У вёсцы Мокрае адбыўся партыйны чын. Наладзілі кусок дарогі. Усе сумленна працавалі.

**Я. Н-т-к**

### У РУДУТАХ

Найперш адбыўся ў вёсцы сход. Выбралі дзень, калі ўсе пойдуць на чын. Вырашылі, што зробяць дарогу Рудуты-Орля. Пясок будуць вазіць фурманкамі.

Кожны гаспадар прывёз па тры фурманкі пяску. Дарогу наладзілі. Цяпер у людзей толькі адно жаданне: каб дарогай гэтай пайшоў аўтобус, каб з вёскі можна было даехаць у свет.

**Л. Добаш**

### У ГАЙНАЎЦЫ

Нягледзячы на дрэнную пагоду, гайнаўская партыйная арганізацыя масава прыняла ўдзел у партыйным чыне. Рабочыя выконвалі дадатковую прадукцыю на ўласных прадпрыемствах, іншыя працавалі для горада.

Работы ў горадзе канцэнтраваліся ў гарадскім парку, дзе ўдзельнікі чыну садзілі дрэўцы і кусты і пракладвалі электрычны кабель для асвятлення парку. Арганізацыя чыну была добрая, людзі працавалі ахвотна.

**Раса**

## Заўсёды небяспека

Кожны дзень бачым, як у Чаромсе па чыгуначных рэйках ходзяць людзі — пасажыры, вучні. Блытаюцца дзецюкі і п'яніцы. Ніхто не зважае на аб'явы чыгуначных улад, што хадзіць па чыгунцы забараняецца. Людзі не зважаюць на нішто. Яны заўсёды спяшаюцца. Не глядзяць, што робяцца манёўры. Лёгкадумна шпараць пад калёсы цягнікоў.

А трэба сказаць, што ў Чаромсе на чыгунцы загінула ў няшчасных выпадках некалькі чалавек.

У Чаромсе на станцыі неабходны віядукт. Праўда, была ўжо такая прапанова. Прыязджала спецыяльная камісія (чыгуначныя ўлады, міліцыя), якая даследавала месца для пабудовы віядука. І ўсё сціхла. Чаму? Няўжо камісія сцвердзіла, што віядукт тут непатрэбны? А мо ёсць іншая прычына? Чаму ніхто аб гэтым не гаворыць, не намагаецца вырашыць такой важнай для ўсіх праблемы? Мне здаецца, што ў гэтай справе павінны выказацца ўсе: мясцовыя ўлады, міліцыя, дырэкцыя пачатковай школы, а перш за ўсё — жыхары пасёлка і навакольных вёсак, чыіх дзяцей, кожны дзень ідучых у школу, чакае вялікая небяспека. Ці тады прабудзяцца ўсе, як нехта зноў знойдзе смерць пад коламі цягніка? Тады будзе ўжо позна!

**Мацейка**




**Толік М. з Гайнаўскага павету.** Але ж існуе такая ўстанова. Яе назва і адрас Powszechna Księgarnia Wysyłkowa, Warszawa, ul. Nowolipie 4.
Кнігарня гэтая ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. У пісьме дастаткова падаць загаловак кнігі і прозвішча аўтара.

**Васіль Т. з Бельскага павету.** Адносна абавязковага даследавання свінога мяса з уласнай штукі перад спажываннем знойдзеце
Rozporządzenie Ministra Rolnictwa z dnia 17.XI.1953 r. ogłoszone w Dzienniku Ustaw nr 49, poz. 243.

**Ганна П. з Нарвы.** Пенсію за перададзеную гаспадарку можна атрымаць незалежна ад таго, ці вы будзеце жыць на вёсцы ці ў горадзе.

**Ю. Тынявіцкі, Кожына.** У справе адкрыцця пункту скупкі трускалак у Кожыне звярнуліся мы да старшыні кааператыва „Вітаміна" ў Бельску Р. Анацэвіча. Паінфармаваў ён нас, што такі пункт можна будзе адкрыць нават сёлета, калі ў гаспадароў з Кожына і бліжэйшых навакольных вёсак збярэцца не менш 10 гектараў трускалак. Заяву аб адкрыцці пункта скупкі з паданнем прозвішчаў сялян, якія займаюцца вырошчваннем трускалак, пісаць на адрас:
Rejonowa Spółdzielnia Ogrodniczo-Pszczelarska „Witamina", ul. Brańska 39. 17-100 Bielsk Podlaski.

**„Зарніца".** Верш „Не забуду" надрукуем.

**Аляксандр Раманюк.** „Беларускіх дзяўчат" надрукуем.

**Валянцін Анапюк.** Вершы „Мой край" і „Прыкметы вясны" можна друкаваць. У вас добрыя вобразы, зважайце толькі на тое, каб не губляць рытм.

**Жэня Аўсенюк.** Вершы будзем друкаваць, ды так адразу не можам.

(ця)

**NIWA Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch" Indeks 36911/36671.**



 

